Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 злотыя
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 13. Вільня, Пятніца, 11-га ліпня 1924 г. Год I.

## Не расьцярушываць сіл!

Надовячы мы паведамлялі нашых чытачоў аб тым, што польскі ўрад прадоўжыў на шэсьць месяцаў дзейнасьць ваенна-палявых судоў на землях Заходняе Беларусі.

Факт гэны зварачае на сябе асаблівую ўвагу: ён паказуе, што нездавольства на так званых „Крэсах“ настолькі ўжо пашырылася ў народных масах, што так званы „бандытызм“, прызнаваны адначасна польскай прэсай усіх кірункаў за праяву *рэвалюцыйнага настрою масаў*, узрос да такое ступені, што польскі ўрад ужо ня ў сілах падтрымліваць у нашым краю заведзены тутака Польшчай „лад“ *нармальнымі спосабамі*.

Лішне многа крыўд, лішне многа зьдзекаў і—лішне многа сьлёз і крыві бязьвіннай пралілося на зямлі Беларускай за апошнія гады....

Мімаволі ўспамінаюцца словы пасла Ярэміча, які, гаворачы з соймавае трыбуны аб катаваньні паліцыяй беларускіх сялян і аб бяздраднасьці апошніх, сказаў, што ён ведаў-бы, што рабіць, каб над ім гэтакназьдзекаваліся: ён бы паслаў крыўдзіцелю кулю ў лоб...

Гаворачы аб расстрэлах па прыгаворам ваенна-палявых судоў, нельга не затрымацца і на тым мэтадзе барацьбы, аб якім казаў пасол Ярэміч, і які дыктуе натуральнае пачуцьцё крыўды. Але мы павінны перасьцерагчы ўсіх крыўджаных (а іх-жа ў нас — бяз ліку!), што *з грамадзкага пункту гледжаньня* гэты спосаб барацьбы ў нашых варунках *не дасягае мэты*.

Спосаб „упраўленьня“, які Польшча завяла ў Заходняй Беларусі, гэта ня ёсьць праступак таго ці іншага ўрадоўца, або паліцыянта, прысланага сюды з этнаграфічнае Польшчы: з таго, як паны міністры адносяцца да нашых пасольскіх інтэрпэляцыяў, з таго, як галасуе Сойм у прыпадках падачы яму сьпешных прапазіцыяў, датыкаючых агульна ведамых страшэнств жыцьця беларусаў пад Польшчай, з таго, урэшце, што яўныя праступнікі—душагубы і далей спакойна ходзяць на волі і надужываюць свайго службовага становішча, зусім пераканаўся ў сваей бязкарнасьці, — з усяго гэтага і сьляпому ясна, што нам даводзіцца мець дзела *з адумыснай сыстэмай „упраўленьня“*, акуратна прадуманай цантральнымі ўрадовымі установамі і маральна падтрымліванай усенькім польскім грамадзянствам. З другога боку, калі прыпомнім, што польская студэнцкая моладзь, якая на словах схіляе галаву перад высокімі гуманітарнымі ідэаламі сваіх папярэднікаў з часоў Міцкевіча—Філяматаў, пазваляе сабе адначасна—у сваіх акадэміцкіх шапачках на галаве—прыймаць учасьце ў „лоўлі“ палітычнай паліцыяй „неблаганадзёжных“ беларусаў, — дык стане ясным, што гэная паганая сыстэма ўціску і зьдзекаў над „інародцамі“ так глыбока ўжо ўелася ў душу польскага грамадзянства, што нельга ждаць перамены і з прыходам да ўлады новых, падрастаючых цяпер пакаленьняў...

З гэтага ясна, што куля пакрыўджанага беларуса, пушчаная ў крыўдзіцеля, *ані ня зьменіць палажэньня нашага народу:* яна дасьць здавальненьне самому пакрыўджанаму, але сярод польскага грамадзянства выкліча толькі... спогад да „пацярпеўшага“ крыўдзіцеля, хоць-бы яўнага злачынцы! І толькі мацней будзе закручывацца „вінт“, што нас цісьне, толькі далей будуць прадаўжацца „надзвычайныя“ стачы, і тыя адзінкі, якія наважацца шукаць сабе здаваленьня і помсты, мо' якраз найбольш энэргічныя, найбольш здольныя да адчуваньня крыўды народнае і да барацьбы за ўсенародную справу,— тыя адзінкі *будуць вырывацца з радоў байцоў*.

Змагацца за сваё права з дзяржаўнай сыстэмай, з усім грамадзянством „пануючае нацыі“—не пад сілу адзінцы: на гэта патрэбны аб'яднаныя высілкі ўсяго нашага працоўнага народу. Толькі добра арганізаваная маса, абнятая адзіным жаданьнем дабіцца свайго, можа перамагчы магутнага ворага; *толькі наша сьвядомасьць і арганізованасьць дасьць нам пабеду.* Але дзеля такое масавае барацьбы патрэбны павадыры, патрэбны гарачыя сэрцы, што жаданьне волі маглі-бы распаліць у міліонных масах і павясьці за сабою гэтыя масы. Яны не павінны паддавацца жаданьню асабістае помсты за свае крыўды, а павінны працаваць дзеля таго, *каб крыўда сталася надалей немагчымай*. І дзеля гэтага яны не павінны пазволіць, каб іх вырвалі з гушчы народнае, каб удары па іх цярэбілі рады змагароў за ўсенароднае дзела.

Хай клічам нашым будзе:

— Не расьцярушываць сіл!

— Цясьней рады!

## Прамова

**пасла кс. А. Станкевіча ў Сойме 1.VII. 1924 г. падчас разважаньня бюджэту Міністэрства Асьветы і Рэлігіі.**

Высокі Сойме! М..ючы агранічаны час, не змагу сказаць усяго, што сказаць у гэтай справе трэба было-б. Скажу толькі тое, што ўважаю за абавязковае.

Польская культурная палітыка на беларускіх землях была даўней і ёсьць цяпер палітыкай польшчаньня беларускага народу. Сучасная польская культурная палітыка на нашых землях ёсьць такой самай, як і быўшая палітыка царская.

Бюджэт Мін. Асьв. і Рэл. ёсьць адбіцьцём падобнай палітыкі і яе аружжам. Бюджэт гэты ўсім сваім цяжарам зварачаецца проціў культуры беларускага народу, які ў сучаснай Польшчы сягае аж за два мільёны на прасторы больш як 100.000 кв. кл. На гэтым этнографічна-беларускім прасторы, на якім элемэнт польскі зусім нязначны, бо не становіць нат' і 10 проц. усей люднасьці, польская прасьветная палітыка бярэ пад увагу толькі культуру польскую.

Зразумелая рэч, што такая польская палітыка ўзрастала ў меру ўмацовываньня польскага панаваньня на беларускіх землях.

Беларускае школьніцтва зачатае пры царскай няволі праз пачынальнікаў беларускага руху — праз нашага слаўнага песьняра Якуба Коласа, вядомага публіцысту Лёсіка і інш., якія за сваю любоў да роднай культуры пакутавалі ў турмах і ў далёкай і сьцюдзёнай Сыбіры,—школьніцтва гэтае далей разьвівалася ў 1917-18 г. падчас нямецкай акупацыі. У гэтым часе паўстала да 300 беларускіх пачаткавых школ, а з іх да 150 уваднэй толькі Горадзеншчыне. Паўстала тады беларуская вучыцельская сэмінарыя ў Сьвіслачы, гімназія ў Будславе і ў Наваградку.

У 1919 г. пасьля акупацыі нямецкай прышла акупацыя польская, прышоў так званы „Zarząd Ziem Wsch.“, а з ім і збурэньне пачаткаў беларускага школьніцтва. Адразу ў самай толькі Навагрэдчыне закрыты 50 беларускіх школ, закрыта гімназія ў Будславе паміма просьбы з 400 подпісаў мяйсцовай людносьці; закрыты такжа 150 школ у Горадзеншчыне, закладзеных пры немцах, а такжа закрыты 45 школак у пав. Вялейскім і 65 школ у пав. Дзісьненскім, закладзеных яшчэ пры Керэнскім.

Статыстыка 1920 г. ўжо вось што сьведчыць аб беларускай школе: ў Віленшчыне 15 школ, Горадзеншчыне 14, у Меншчыне 194, гімназія ў Вільні і 3 гімназіі ў Меншчыне.

Прыходзіць урэшці восень 1920 г., а з ёй і добра нам ведамая „Сярэдняя Літва“, абымаючая паветы: Ашмянскі, Віленскі, Сьвянцянскі і часьць Троцкага. У гэтым часе ўжо істнуючыя і новаадкрытыя беларускія пачаткавыя школы перавышалі 200; паўстала такжа беларуская вучыцельская сэмінарыя ў Барунах, Ашмянскага пав.

Зразумелая рэч, што гэта было толькі часовае ўступства на карысьць беларускай школы для мэтаў палітычных. Трэба было паказаць Эўропе, што на спорных землях людносьць беларуская і літоўская дужа прыхільна настроена да польскай улады і годзіцца на вечнае яе панаваньне на гэтых землях. Але зараз узноў польская палітыка пашла сваей дарогай, дарогай нішчэньня беларускага элемэнту. І запраўды, 2 лютага 1921 г. закрыта сэмінарыя ў Барунах, ня гледзячы на просьбу людносьці з 725 подпісамі, каб школу пакінуць.

Цьверджаньне ў гэтай справе п. Віленскага Куратара, што агулам ня было падобнай сэмінарыі і што ніхто яе не замыкаў, ёсьць зусім фальшывае. (Голас на крэслах народных меншасьцяў: Гэта Гонсёроўскі?) П. Гонсяроўскі. (Голас на крэслах народных меншасьцяў: Знаем яго). Пацьвердзяць гэта арганізатары гэтай сэмінарыі, мае таварышы з клюбу, паслы Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі.

15 лістапада 1921 г., як цьвердзіць К. Сроковскі ў сваей брашуры: „Sprawa Narodowościowa na Kresach Wschodnich“, быў выданы загад, забараняючы ўжываньне ў школах беларускай мовы ня толькі як прадмету, але агулам як мовы ўспамагальнай.

Польскае панаваньне на нашых землях, рэч ясная, узрасло найбольш пасьля 18. III. 1921 г. (Рыжскі Трактат) і пасьля 10. II. 1922 г., калі сталася нібы дабравольнае прылучэньне Віленшчыны да Польшчы. (Галасы: што гэта значыць: нібы?) Бо не дабравольна, а пад прымусам. (Галасы: Як гэта не дабравольна? Гэта-ж пастанавіў Сойм Віленскі!) Сойм быў аднабокі, без учасьця беларусаў, ліцьвіноў і жыдоў,—Сойм гэты мы байкатавалі.

На гэтых гістарычных фактах змацавалася і польская палянізацыйная палітыка; ў 1922 г. беларускіх школ ужо блізу няма зусім.

Часьць беларускага вучыцельства лікам 250 выслалі ў Лобзова пад Краковам на польскія курсы, каб іх ужо ніколі не дапусьціць да школ беларускіх. Так яно і сталася. Дык праўду кажа п. куратар Гонсёроўскі, што гэтых кракаўскіх вучыцялёў прымаюць у школы, але такжа праўда і тое, што іх прымаюць блізу выключна ў польскія школы і то прадусім у Польшчы этнаграфічнай, а ў школы беларускія іх ня пускаюць.

1923 г. закрыты беларускія гімназіі ў Гарадку і ў Нясьвіжы.

Статыстыка 1923-24 г. беларускае школьніцтва ўжо так малюе: у Вільні 2 школы пачаткавыя, у пав. Вялейскім 7, у Дунілавіцкім нешта да 5, у Сьвянцянскім таксама да 5 і ў Нясьвіскім 1, а разам нешта толькі да 20 школ беларускіх і беларускія гімназіі ў Вільні, Радашковічах і ў Наваградку. Гімназіі гэтыя прыватныя, ад ураду не атрымліваюць ніякай дапамогі, а такжа аж дагэтуль ня маюць правоў. Такім спосабам урад польскі, ведама, імкнецца да поўнага разгрому беларускай школы, беларускай культуры.

Гэтак сумна выглядае сяньня ў Польшчы беларускае школьніцтва больш як для 2 мільёнаў беларускай людносьці. А гутарка п. віленскага куратара, што ён школ беларускіх не зачыняе, ёсьць праўдзівая, але такжа ёсьць праўда, што ён, агулам кажучы, і не пазваляе на адчыняньне беларускіх школаў.

Беларуская людносьць, ня маючы роднай школы, дзічэе, да школы польскай сваіх дзяцей

пасылае толькі дзеля штрафу, які цяпер стасуецца шырока. Люднасьць наша ад польскай школы, накінутай гвалтам, староніцца. Заява п. віленскага куратара, што быццам нават праваслаўныя беларусы просяць польскай школы, зусім нязгодна з праўдай.

Ня менш сумна выглядае на землях беларускіх і справа рэлігійная. Мала таго, што беларусам каталікам пастаянна накідаецца польскасьць, асьмяшаецца каталіцтва, называючы яго „польскай верай“,—гэта сама робіцца з царквой праваслаўнай. Грознае зьявішча в. XVII-XVIII, зьявішча страшэннай барацьбы рэлігійнай узноў уваскрасае на нашых няшчасных землях. (Голас: I гэта гаворыць ксёндз). На тое-ж я і ксёндз, каб праўду гаварыў. Бязпраўна адбіраюць цэрквы, бязпраўна і дзіка выкідаюць з прыходаў праваслаўнае духавенства (Голас: з цэркваў, ці з касьцёлаў). Аб касьцёлах не гавару, рэч ідзе аб цэрквах.

Апошнім часам, у Беластоцкім ваяводзтве аж 36 духоўных праваслаўных выганяюць з краю. Ваявода ім азнайміў, што могуць ісьці з краю туды, куды ім падабаецца.

Апрача гэтага ўрад польскі дэмаралізуе ўсю праваслаўную гіерархію, робячы з яе аружжа палітыкі. (Голас: Ксёндз ня будзе мітрапалітам.) Аб гэта не стараюся, пану гэта пакідаю. А ўрэшці ёсьць тут міністар Міклашэўскі, які заслужвае на тое, каб быць праваслаўным мітрапалітам.
Спосабы Сталыпіна і яму падобных, тасаваныя падчас царскай Расеі да касьцёла каталіцкага, у ва ўсей поўнасьці, у сучаснай Польшчы, на жаль, тасуюцца да царквы праваслаўнай. Пан Пекарскі ў Міністэрстві Прасьветы і Рэлігіі бяздарна прабуе іграць роль обэр-пракурораў „сьвяцейшага“ сыноду: Пабеданосцавых, Саблераў і інш.

Тымчасам згодна з Трактатам Вэрсальскім, Трактатам Рыжскім, згодна з правам прыродным нам слушна належыць: пастаяннае вызначаньне сумаў з дзяржаўных грошы на беларускае школьніцтва прапорцыянальна да ліку беларускай люднасьці, аснаваньне прынамсі трох беларускіх вучыцельскіх сэмінарыяў і курсаў для ўжо істнуючых беларускіх вучыцялёў хоцьбы ў важнейшых местах, як у Вільні, Горадні, Навагрalgadку, арганізаваньне вучыцельскага інстытуту для прыгатаваньня вучыцялёў для беларускіх сярэдніх школ, заснаваньне сеткі беларускіх пачаткавых школ прапорцыянальна да ліку беларускай люднасьці, дзяржаўнае грашовае ўтрымліваньне беларускіх гімназіяў у Вільні, Радашкавічах, Навагрaдку і прызнаньне ім правоў, арганізаваньне катэдры беларускай мовы і літэратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі ў Віленскім Унівэрсытэце, пераданьне кіраўніцтва беларускай школай у рукі адумыслова для гэтага створанай беларускай адміністрацыі, забясьпечаньне хоць раз вольнасьці рэлігіі і сумленьня.

Але, нажаль, гэтыя слушныя нашы дамаганьні аж да сяньняшняга дня зусім ня ўзяты пад увагу. Дык ясна, што мы будзем галасаваць проціў усяго бюджэту.

На галасаваньне нашых дамаганьняў ня стаўлю, бо дужа добра ведаю, перапрашаю за выражэньне, проста бязстыдныя адносіны большасьці Сойму да беларускай школы. (Маршалак: Паміма перапросінаў, прыклікаю ксяндза пасла да парадку).

Урэшці лічу няславай для майго народу пастаянна гнуцца і выпрашываць панскай ласкі, бо панская ласка на рабым кані езьдзіць. (Воплескі на крэслах народных меншасьцяў).

Веру моцна, што Нэмэзіс гісторыі ўсё-ж станецца прыхільнай і для нашага народу, і што сам беларускі народ сваей уласнай сілай абароніць свае правы і сам здабудзе ўсё тое, што яму слушна належыцца. (Воплескі на крэслах народных меншасьцяў).

## Новы скандал на Кракаўскім працэсе.

Толькі што адгучэў нябывалы скандал на Кракаўскім працэсе, калі старшыня праз сваю „нябезстароннасьць“ настолькі страціў пашану з боку абароны, што адзін з абаронцаў ня толькі не падпарадкаваўся яго загаду, але яшчэ і сам старшыня атрымаў ад яго „навуку“ у недапусьцімай форме...

Як ведама, п. старшыня ўзнавіў сваю „павагу“... штрафам у 200 злотых. Аштрафавана была на 50 злотых уся абарона за тое, што ў знак пратэсту пакінула салю суда.

А вось цяпер ізноў скандал—яшчэ горшы за першы!

Вось якую заяву зрабіў той самы абаронца пасол Лібэрман, якога пракурор Созаньскі „запісаў“, каб патрэбаваць выдачы з Сойму:

Да абароны дайшлі такія весткі аб паводзеньні пракурора Созаньскага, што яна, занепакоеная ў найвышэйшай меры, павінна зьвярнуцца да старшыні суда, каб ён абараніў прысяжных ад тэй рашуча забароненай законам агітацыі, якую вядзе сярод іх паза судом пракурор. П. пракурор націскае на некаторых прысяжных, каб яны „захварэлі“ і гэтым змусілі суд адлажыць справу. Робіць гэта пракурор, як ён сам заявіў гэтым прысяжным, дзеля таго, што іх склад неспагадны для пракурора, бо можа апраўдаць падсудных! Але вось, калі суд справу адложа, дык ён, пракурор, сам прыгатуе ўжо зусім пэўны і добра падгатаваны склад прысяжных, які напэўна „закатае“ падсудных... Апроч таго, пракурор казаў гэтым прысяжным, што да новага суду зусім пераробіць акт абвінавачаньня, каб як найбольш абвінавачаных судзіць зусім без прысяжных — „звычайным“ судом.

„Дзеля гэтага, казаў п. Лібэрман, — абарона просіць, каб п. старшыня забараніў п. пракурору Созаньскаму гэтую незаконную акцыю, нарушаючую арт. 313 Угал. Судав., які не дазваляе ніякага паразуменьня з прысяжнымі да абвешчаньня прысуду. Гэткая акцыя пракурора падрывае асновы праваеуднасьці і гвалціць свабоду прысяжных“!

Гэтая заява зрабіла ўражэньне запраўднага выбуху бомбы. Пракурор ня мог нават нічога сказаць у сваё апраўданьне.

Пасьля нарады старшыні і абаронцы з прысяжнымі, старшыня заявіў, што зробіць перарыў, каб паведаміць аб усім галоўнага пракурора ў Кракаве.

На другі дзень у газэтах была падана вестка аб тым, што п. пракуратар Созаньскі адстаўлены ад сваіх чыннасьцей і адданы пад дысцыплінарны суд. Хаця адзін, але ўсё-ж такі папаўся.

# Бюджэт Польшчы у Сойме.

### Бюджэт міністэрства ўнутраных спраў.

Як ведама, у кожным гаспадарстве паліцэйскага тыпу, якім зьўляецца сучасная Польшча, — заўсёды найбольш спрэчак і пратэстаў у законадаўчых палатах выклікае бюджэт міністэрства ўнутраных спраў.

Гэта сталася і цяпер у Польшчы.

Дыскусія над міністэрствам п. Гюбнэра — гэта акт абвінавачаньня проці адказных кіраўнікоў унутранай палітыкі Польшчы, якімі зьяўляецца ня толькі ўрад Грабскага, але і тая „народова-польская большасьць“ Сойму, якую зусім няправільна дзеляць на правіцу і лявіцу. Як няраз ужо пісалі беларускія газэты, трагэдыя ўнутранай палітыкі Польшчы — ў тым, што нацыянальная няроўнасьць у правох грамадзян Польшчы, нацыянальны уціск, які пануе на „Крэсах“, плыве з „Крэсаў“ назад у караннaю Польшчу, адбіваецца на адносінах дзяржаўнае ўлады і да грамадзяніна-паляка, заражае і псуе законадаўства, адміністрацыю і суд Польскай дзяржавы наагул. Гэтая „крэсавая хвароба“ адбіваецца вельмі моцна і на сацыяльных адносінах у Польшчы, дзе ўскладаюцца вялікія ахвяры на аўтар „сацыяльнага міру“ і „народовай еднасьці“ — коштам інтарэсаў працоўных клясаў.

### Даклад „пястоўца“ і прамова міністра.

Дакладчыкам выступаў „пястовец“. Яго даклад—рад агульных, бледных, нязначных фразаў аб тым, на што здабылася міністэрства, а чаго „яшчэ не здалела зрабіць“.

Міністар Гюбнэр прызнае, што адміністрацыя ў Польшчы — благая, а на „Крэсах“ дык яшчэ горшая. Увага міністэрства спэцыяльна зьвернена на „Усходнія Крэсы“. Міністар абяцаў хутка ўнясьці ў Сойм праекты законаў аб сабраньнях, аб прэсе, саюзах, адміністрацыйных судох, аб рэарганізацыі адміністрацыйнае ўлады, аб правох няпольскіх моваў. Кажа, што часьць законапраектаў міністэрства ўжо ўнясло, — напр. аб самаўрадах. Абяцуе паправіць „стан бясьпечнасьці“ на Крэсах.

З прамовы і з усяго тону, якім была казана прамова, адразу было відаць, што міністар нічога ня зробіць, бо — зусім да гэткай працы ня здольны.

### Прамовы апазыцыі.

Жыд **Грюнбаўм** рэзка крытыкуе пустату прамовы міністра, які толькі пералічыў назовы розных праектаў, ня даўшы ані агульнага пляну сваей канкрэтнай працы, ані праграмы аздараўленьня ўсіх хвароб нашага жыцьця ў Польшчы. Чакаць ад новага міністра, што ён рашуча парве з „курсам Керніка“, нельга. Тая праграма, якую міністар павінен правясьці ў жыцьцё ў першую чаргу, вельмі простая: гэта — выпаўненьне надпісанага Польшчай Трактату аб меншасьцях.

Пасьля „левага людоўца“, які востра крытыкуе міністра, выступаў наш беларускі пасол **Ярэміч**, якога прамову, праслуханую з вялікай увагай і часта злосна перарываную правіцай, мы ўжо друкавалі.

Украінец **Хруцкі** слушна казаў, што прычына паражэньняў Польшчы на загранічным полі ляжыць у яе ўнутранай палітыцы. А гэтая палітыка акрэсьляецца ненавісьцяй да меншасьцяў. Усе польскія партыі, апрача камуністаў, хварэюць на „манію мацарствовай велічы“. Прасьледаваньні „інародцаў“ у Польшчы — горш, чым былі ў даваенных манархіях, бо там прынамся эканамічна ня душылі меншасьцяў. А Польшча душыць нацыянальна і руйнуе гаспадарча аддадзеныя ей народы. Міністэрства ўнутраных спраў — гэта толькі „міністэрства для барацьбы з унутраным ворагам“. Нават туркі і татары, кіколі не дапускалі таго, што робіцца ў Польшчы. На „Крэсах“—30.000 паліцыянтаў і толькі 6.390 вучыцялёў. Вось, як у запраўднасьці выглядае „культурная місія Польшчы на Усходзе“. Дзякуем за такую культуру!

У канцы ад імя украінскага клюбу аратар прапануе адкінуць усе крэдыты на паліцыю.

Пасол **Крэніг** (немец), якому праз увесь час перашкаджае правіца, напамінаючы аб гвалтах прускай манархічнай улады над палякамі, слушна скардзіцца на гвалты палякоў над немцамі ў Польскай Рэспубліцы. Ад гэтага немца мы даведаліся нарэшце аб зьмесьце тэй пазнанскай прамовы п. Прэзыдэнта Войцехоўскага, якая выклікала гэткае абурэньне на Захадзе, інтэрпэляцыі ў Сойме і Сэнаце і ўвядзеньне цэнзуры прэзыдэнцкіх прамоў набудучыну. П. Прэзыдэнт ваяўніча заявіў у Пазнані, што „ня ўсе яшчэ чыста польскія землі вярнуліся на матчынае лона Польшчы“. А каб вярнуць іх усе, трэба, не шкадуючы выдаткаў, павялічываць польскую армію!

Міністэрства ўнутр. спраў — „гняздо рэакцыі“, і нямецкі клюб будзе галасаваць проці яго бюджэту. Аратар кажа, што дух ненавісьці да немцаў, які плыве з цэнтру ад польскага ўраду і Сойму, зрабіў тое, што ў Горным Сьлёнску паліцыі не дазваляюць гаварыць па нямецку, а паліцыя знаглела да таго, што б‘е па твару за нямецкую мову на вуліцы!

У канцы аратар слушна кажа, што тая „народовая“ (нацыяналістычная) палітыка, якую вядзе Польшча, каторая ў яе сучасных граніцах павінна вясьці лібэральную палітыку ў адносінах да нацыянальнасьцяў, можа мець адзіны толькі рэзультат: з дзяржавы „нацыянальнасьцяў“ Польшча будзе зьведзена да сваіх „народовых“ (этнаграфічных) граніцаў...

Пэпээсавец **Прагер** дасьціпна кажа, што міністэрства ўнутр. спраў—у пастаянных „корчах рэарганізацыі“, з якой фатальна нічога ня выходзіць. Яно мае ўжо чацьверты новы статут, а міністар кажа, што гатуе яшчэ пяты!

Замест запраўднай дэцэнтралізацыі міністар праектуе нейкую „фэдэрацыю незалежных ваяводаў і старостаў“, якіх, якраз наадварот, трэба падпарадкаваць суроваму нагляду цантральнае ўлады.

Пераходзячы да справы меншасьцяў, аратар дасьціпна іранізуе над запраўды дурнымі выкрыкамі з правіцы, калі прадстаўнікі меншасьцяў крытыкуюць парадкі ў Польшчы. „Лёгка крычаць: „едзь у Расею“, ці „едзь да Нямеччыны!“ Але як усе меншасьці паслухаюць гэтых радаў, дык якраз падыймецца нанова справа граніцаў Польшчы!“

Адзіным разьвязаньнем крэсавай праблемы ёсьць тэрыторыяльная аўтаномія.

Аратар „сьцьвярджае“, што паліцыя ў Польшчы—нягодная. А на Крэсах міністэрства толькі паліцыяй і думае, „як сякерай паправіць сапсаваны гадзіньнік“. Паліцыя б‘е арыштаваных. Гэта сьцьверджана ўсемі. Гэта здараецца ўсюды. Але толькі ў Польшчы гэткі паліцыянт ці правакатар вырастае ў „нацыянальнага героя“, — у „абаронцу дзяржавы“ і — атрымлівае павышэньне. Самавольства адміністрацыі дайшло да таго, што львоўскі ваявода сам сваей „заканадаўчай уладай“ завёў папярэднюю цэнзуру для украінскай прэсы. Але найгоршыя парадкі пануюць у тайнай паліцыі і дэфэнзыве (бедны таварыш Ярэцкі!): ў сьпісках падазроных асобаў, якія знаходзяцца ў польскай дэфэнзыве, фігуруюць... бэльгійскі міністар - сацыяліст Вандэрвэльдэ і англійскі — Гэндэрсон!

Ад імя П. П. С. аратар трэбуе адкінуць крэдыты на паліцыю і дэфэнзыву.

„Хрысьціянскі абшарнік“ **Вырэмбоўскі** паўтарае цікавыя словы, якія быццам сказаны калісь на „Крэсах“ беларусам прэзэсам Тугуттам: „калі вы ня хочаце, каб вас білі, не разьбівайце галоў прадстаўніком польскае ўлады...“.

Запраўды, цікавыя словы. Але вось да п. Пэнлевэ п. Тугутт пісаў трохі інакш...

Пасол **Попель** (партыя работнікаў нацыяналістаў) крытыкуе „інтэлігэнтнасьць“ асабістага складу польскай адміністрацыі. Падае, як прыклад, аднаго з „найвышэйшых“ дастойнікаў цяперашняга міністэрства, які, будучы старостай, загадаў арыштаваць Джэка Лёндона (амэрыканскі пісьменьнік, жыве ў Амэрыцы!)— за „камуністычныя ідэі“. I гэткіх—шмат.

### Прамовы у абарону міністэрства.

Эндэк **Казлоўскі** даводзіў патрэбу... павялічэньня паліцыі і ўжываньня войска для паліцэйскіх мэтаў, бо... толькі гэткім шляхам падтрымаецца „аўтарытет“ улады—асабліва на „Крэсах“.

Хадэк **Бігэньскі** ў абарону польскай адміністрацыі і паліцыі падае прыклады... гвалтаў нямецкіх уладаў!

Нарэшце на абарону міністэрства, замест міністра, устае дакладчык „пястовец“ **Русінэк**.— У канцы кажа да меншасьцяў, што яны самі вінаваты ў гвалтах, якія выкліканы іх „нацыяналізмам“,—і што гэты „нацыяналізм меншасьцяў“ зьвязывае і параліжуе натуральны „лібэралізм палякоў“.

---

Вынікі галасаваньня над бюджэтам мін. ўнутр. спраў нашым чытачам ужо ведамы: як заўсёды ў Польшчы, гара парадзіла мыш!—Адным голасам большасьці прынята прапазыцыя п. Попеля зьняць 100 злотых з крэдытаў на паліцыю.

У выніку гэтага дэманстрацыйнага гласаваньня аднак-жа ані міністар, ані нават галоўны камэндант паліцыі, хаця і падалі прашэньні аб адстаўцы, але па пастанове п. п. Прэзыдэнта Войцехоўскага і прэм‘ера Грабскага ўзялі адстаўку назад і сядзяць ізноў на сваіх месцах.

**Кожны селянін, калі прыедзе у Вільню, павінен зайсьціся ў беларускую кнігарню на вуліцы Завальнай пад № 7. Там ён можа набыць па сходнай цане шмат цікавых, карысных і патрэбных кніг, як для сябе, так і для суседзяў сваіх.**

рад новых цэнных прац. Гэта ёсьць: 1) гісторыя беларускае драмы і тэатру, пачынаючы ад першых праяў драматычнага элемэнту ў беларускай народнай творчасьці і канчаючы сучасным тэатрам; 2) адноактовы сцэнічны абразок і 3) повесьць з сучаснага беларускага жыцьця.

Падгатаўляецца да друку пераклад чатырох Эвангельляў на беларускую мову, зроблены вядомым беларускім дзеячом Дзекуць-Малеем (Берасьце).

У Усходняй Беларусі аўтар выданага ў Вільні зборнічку вершаў „Строма“, Уладзімер Дубоўка, прыгатаваў да друку новы зборнік сваіх твораў „Трысьцё“.—Пісьменьнік Галубок піша новую камэдыю ў 3 актах „Людзі“.

У Менску выйшаў у сьвет зборнік вершаў А. Вольнага і А. Александровіча „Камсамольская нота“.

У Югаславіі малады беларускі паэт М. Запольскі прыгатаваў да друку два зборнічкі сваіх вершаў: „З настрою на чужыне“ і „Песьні“.

**Ад праваслаўнае сэмінарыі—да жыдоўскае гміны.** Польская ўлада, заахвочаная ўгадлівасьцяй праваслаўнага духавенства (маскалёў, панаехаўшых пад „цёплае скрыдла“ апякункі — Польшчы!), якое так лёгка згадзілася на ўвядзеньне навукі ў праваслаўнай духоўнай сэмінарыі ў Вільні **па польску**,—пастанавіла налажыць руку і на жыдоўскую гміну, каб яе спольшчыць. Міністар рэлігійных вызнаньняў і народнае асьветы загадаў, каб кіраваньне нарадамі на засяданьнях жыдоўскае гміны адбывалася **ў польскай мове**, а то на тэй падставе, што гміна выпаўняе некаторыя публічна-праўныя чыннасьці (накладае прымусовыя падаткі на сваіх сяброў — на патрэбы гміны), ды што старшыня і яго намесьнік зацьвярджаюцца польскаю ўладаю....

Цікава, як да гэтага „падарунку“ аднясуцца жыды?

## Весткі з вёскі.

**Пружаны.** Палескага ваяв.

Пераход праваслаўнае царквы на новы стыль (каляндар) аканчальна ня ўдаўся вышэйшай царкоўнай уладзе, якая, як ведама, пад націскам Польскага Ураду загадала, каб усе праваслаўныя сьвяты былі сьвяткаваны, пачынаючы ад 9 (22) чэрвеня, разам са сьвятамі польскімі.

Пружанскаму праваслаўнаму духавенству, якое абвесьціла вышэйшы загад улады, прыхаджане пачалі рабіць закіды ў здрадзе, абураючыся на вышэйшую царкоўную уладу, якая, паводле думкі і псыхалёгіі мас, „прадала паном“ і праваслаўную веру.

У м. Сяльцу, Пруж. павету, калі поп пасьля абедні перад цалаваньнем крыжа абвесьціў аб новым парадку сьвяткаваньня сваім прыхаджанам, то бабы пачалі голасна плакаць, а мужчыны не падыйшлі цалаваць крыж. Пыталіся тут-жа, між іншым, у папа, ці ёсьць на гэта згода патрыярха Ціхана, які памінаецца ў царквах пры малітвах? Адна баба, плачучы, галасіла аб тым, што яна на гэтым мейсцы чула аб вызваленьні мужыкоў з няволі (спад паншчыны), чула, як наклікалі на вунію, а сёньня йзноў нейкая чорная рука імкнецца задушыць праваслаўную веру.

У сяле Засімавічах (6 км. ад Пружан) на Купалу па новаму стылю 24 чэрвеня ў царкву прыйшлі толькі тры асобы: поп, дзяк і стораж.

Прыймаючы пад увагу, што папы, як урадоўцы, выпаўняючы загад свае і чужое ўлады, ня ходзяць у царкву на сьвята па старому стылю, прыхаджане змовіліся па чарзе закупляць у гэтыя дні службу (абедню), на што кожны веруючы маець права, а поп абязан заспакоіць рэлігійнае жаданьне свае паствы.

Такім чынам, загад вышэйшае царкоўнае улады аб зьмене сьвяткаваньня датычыць толькі папоў, якія змушаны будуць у гэтыя дні служыць ў абсалютна пустой царкве, прыхаджане-ж ніколі да гэтага ня прыступяць, і ніхто іх ня змусіць.

У нас ужо раздаюцца такія галасы, што, калі польская ўлада (паліцыя) не пазволіць у гэтыя дні працаваць у полі, то людзі да паўдня будуць у гумне раскідаць зложанае збожжа, або сена, каб па паўдні йзноў складаць яго на старое мейсца, і ўсёж гэтым не падпарадкавацца істнуючаму загаду, які зроблены бяз згоды народу.

### Калі-ж, урэшці, пазбавімся мы прыгону на дарогі?

(Хаценчыцы, Вялейск. павету).

Людзі нашыя страшэнна абураны парадкамі пры папраўцы дарог. Чамусь-ці ўсе дарогі павінны папраўляць толькі мы, сяляне. Хто укладае распарадак такі, каб усе дарогі, як сэйміковыя, так і дзяржаўныя, папраўлялі толькі мы? Чаму гэтых дарог не папраўляюць паны-абшарнікі? Зямлі-ж у іх куды больш, чым у нас, і па іхных землях найбольш прайходзіць і дарог розных. Калі гэтае распараджэньне аб папраўцы дарог паходзіць ад Вялейскага павятовага сойміку, ў складзе якога ёсьць некалькі прадстаўнікоў-сялян ад гмінных радаў усяго павету, дык чаго-ж яны маўчаць? чаму яны не бароняць нас? чаму яны так укладаюць расклад працы па папраўцы дарог, што уся праца гэтая лажыцца на плечы толькі нашыя, сялянскія? чаму не бароніць нас у сойміку павятовым прадстаўнік ад нашае гміны?

Ганяюць і ганяюць нас увесь час на гэтую работу, запраўды як на паншчыну. То пашырай усе дарогі, то падымай насып на іх, возячы пясок, то выраставай дарогі, то — расшыраючы іх — церабі кусты і капай у карчэўях канавы... Прост—няма адпачынку. Каб—сказаў той—плата за гэта якая была, а то жаднай ніхто з акалічных сялян не дастаў. Мы ўжо думаем, што нехта на нас надта заеўся і хоча нас здушыць гэтым новым прыгонам, бо на добры розум, і каб нікому ня было крыўды, дык найлепей было-б ападаткаваць падзесяцінна зямлю усіх у воласьці, як селян, так і паноў-абшарнікаў, ды за гэтыя тады грошы і папраўляць дарогі. А то як цяпер ёсьць? Сяляне папраўляюць дарогі і на сваіх землях і на панскіх, а паны... ну, вядома, паны нашыя пры сучасных парадках панскіх чуюць сябе зусім вальготна.

Як чутно з другіх гмінаў, дык там нейк трохі лепш стаіць справа з гэтым дарожным прыгонам. А на нашую гміну чамусь-ці найбольш насядаюць. Прыпамінаецца мне, старому, былая служба мая у мірны час ў расейскім войску. „Каб салдата адвучыць думаць, трэба заваліць яго працай“—казаў фэльдфэбэль. Мусіць гэтую сыстэму праводзяць цяпер над намі у Хаценчыцкай гміне, бо нашая гміна суседуецца з граніцай Радавае Беларусі. Але ці-ж мы вінаваты ў тым, што нашая воласьць апынулася не на тым, а на гэтым баку граніцы?

Асабліва заядае нас пpыганяты на гэтых дарогах у нас нейкі панок Балаховіч. Зьневажае людзей нашых, б'ець нават; маем факты і маем сьведак,

**Пакрыўджаны.**

## Сельска-гаспадарчы аддзел.

### Малочная карова.

Карова ў гаспадарцы займае пасьля каня другое мейсца. Затым кожны гаспадар стараецца пасьля каня купіць сабе і карову. Некаторыя купляюць карову нават перад канём—асабліва тыя, у каго ёсьць малыя дзеткі.

Але не заўсёды трапляецца добрая карова, найбольш нейкая маленькая, худзенькая, заморак нейкі казіны, але не карова. Чаму гэта? Адказ адзін: дагляду ня было, калі гэтая кароўка была цялём. Але аб тым, як гадаваць цялят, я цяпер гаварыць ня буду, пакідаю гэта на другі раз, а цяпер думаю пагаварыць аб тым, якая карова малочная і што рабіць, каб яна была малочная.

Каб карова была малочная, патрэба двух рэчаў:
1) каб карова была добрага заводу,
2) і каб яна мела добры дагляд.

Якая-ж карова будзе добрага заводу, або, іншымі славамі, якая карова будзе даваць многа малака?

Малочная карова мае некулькі прымет. Вылічым тут глаўнейшыя:

1. Малочная карова павінна быць **даўгая** сама і мець даўгую шыю. Гэта будзе глаўная прымета малочнае каровы. Карова, кароткая ды яшчэ з кароткай шыяй, як у бугая, нікуды не гадзіцца, яе толькі ў саху, або ў воз запрагаць. Людзі часам гавораць, што ў малочнай каровы паміж рабрынаў далонь ляжа, гэта праўда, бо чым даўжэйшая карова, тым шырэй у яе будуць рабрыны.

2. Малочная карова павінна мець малую мордачку і тонкія рогі; з тоўстаю мордаю, або з тоўстымі быковымі рагамі карова рэдка будзе малочная.

3. Да малочных кароў належыць і тая, каторая маець тонкія і кароткія пярэднія ногі. Але тут трэба ўважаць, якой пароды, бо ў галандзкай пароды, хоць яны і надта малочныя, а ногі бываюць высокія і грубыя. Але за тое гэтыя каровы бываюць заўсёды доўгія.

4. Трэба, каб карова мела роўны хрыбет, гэта значыць, каб ня была гарбатая і моцна западзістая. Шырокі крыж у каровы,—гэта знак, што карова водзіць добрыя і вялікія цяляты. Апроч гэтага трэба, каб хвост каровы даставаў да кален і канец хваста быў жаўтаваты, такая карова даець тлустае малако. Тлустасьць малака ішчэ пазнаюць па вымю: калі вымя ў каровы даходзіць фалдамі аж да адходаў, гэта знак, што карова даець тлустае малако.

5. Карова павінна мець вымя вялікае, значна падзеленае на чатыры часткі. Калі тое вымя выдаіць, то яно павінна зьвісаць у фалдачкі і быць мягкім, як машонка. Калі вымя пасьля выдаеньня мясістае і тугое—карова нікуды ня варта. Апроч таго малочную карову яшчэ пазнаюць па малочных жылах, каторыя зьвіваюцца пад брухам каля вымя ў ваколіцы пупа. Калі звоі жылаў грубыя—карова малочная; калі тонкія і малыя—карова слабая на малако.

Дык вот і ўсе прыметы малочнай каровы. Паўторым яшчэ раз;

а) малочная карова доўгая, пачынаючы ад шыі, а канчаючы на хвасьце.

б) Карова складу „каравінага“, а не бугаёвага: тонкая і далікатная мордачка, тонкія ногі і рожкі.

ц) Вялікае вымя, па выдаеньні фалдзістае. Вот і ўсё тое, якою павінна быць сама карова. А цяпер, які павінен быць дагляд?

У нас на вёсцы часта каровы без дагляду. Жывуць абы жылі. Як даіць—то знойдзецца і гаспадар і гаспадыня і іхнія дзеткі, а як даглядзець — то няма каму. А тымчасам без дагляду і найлепшая карова ня дасьць малака. Да дагляду належаць:

1) корм, 2) пойла, 3) чыстата.

1. **Корм.** У нас кормяць найбольш трасянкаю, мяшаючы салому і сена. Найгоршы корм будзе жытняя салома, а найлепшы — сена. Апроч сена ёсьць яшчэ другія расьліны, каторыя маюць у сабе шмат жыўнасьці. гэта будуць: канюшына, сарадэля і выка. Гэты корм будзе надта добры. Але ня ўсякі яго мае. Дык вот для тых, што ня маюць гэткага пошару, даю

## Барацьба за мову у касьцёлі.

Беларуская часопісь „Krynica“ дае вельмі цікаўныя весткі аб тым, як расьце нацыянальная сьвядомасьць сярод *беларусаў каталікоў*.

„У Друйскай гміне, Дзісьненскага пав. ёсьць хвальварак Малькоўшчына; знаходзіцца там каталіцкая капліца. 9 чэрвеня 1924 г. ксяндзы (беларусы) з Друі прыехалі туды на набажэнства. Народу сабралося многа.

„Калі кс. Цікота зачаў гаварыць па беларуску навуку, абшарнік Язэп Яцына пачаў крычаць: „Nam nie trzeba białoruszczyzny, tu Polska. Zamkniemy kościoły“. Народ страшэнна ўзбурыўся і кінуўся на пана Яцыну. Сын Вольдамар Яцына стаў бараніць бацьку, пагражаючы рэвальвэрам. Яцыны мусіць былі-б забіты, каб не падбег кс. І. Гэрмановіч, які бараніў гэтых панкоў, адпіхаючы людзей. Падасьпеў на падмогу і кс. Цікота. Людзей задзяржалі, а Яцыны вырваліся, дапалі да брычкі і далі ходу, а ўдагонку ім з таўпы народу пасыпаліся каменьні. Урэшці народ супакоіўся і вярнуўся ў капліцу. Тагды кс. Цікота запытаўся: „Як хочаце, каб гаварыць вам навуку?“ Грамада аднагалосна крычала: „Па беларуску; не разумеем па польску“. І кс. Цікота гаварыў цэлую навуку па беларуску“.

„Вот-жа мусім адзначыць, што здарэньне гэта нябывала важную вагу мае.

„Мала таго, што народ наш **ахвотна слухае беларускіх казаньняў, але іх дамагаецца і сам бароніць сваіх культурных правоў**.

„Дык рэч зразумелая, што ўжо ў душы беларуса пачаўся новы час, новыя адносіны да роднай культуры: народ ўжо змагаецца за свае правы, і ён іх, бязумоўна, здабудзе“.

У сувязі з усім гэтым „Krynica“ слушна кажа:

„Дзівяць нас толькі адносіны касьцельнай ўлады да рэлігійнага жыцьця каталікоў беларусаў. У Віленскай Катал. Дух. Сэмінарыі пануе проціўбеларускі настрой і аж да апошніх часоў зусім няма выкладаньня беларусазнаўства.

„А час зрабіць гэта, бо можа хутка прысьці хвіліна, калі **беларус каталік заявіць, што яму пастыры чужынцы непатрэбны**“.

такую раду: давайце гарохавіны, бо яны таксама маюць у сабе многа жыўнасьці. Гарохавіны добра рэзаць на сечку і абліваць яе памыямі, або варанай бульбай і рабіць, як гэта кажуць на вёсцы, „параніцу“. Параніцу прыгатаўляюць усюды, толькі часам ня так, як трэба. На параніцу рэжуць найгоршую салому і кажуць: усё роўна, абмяшаўшы каровы зьядуць. Зьядуць то зьядуць — бо што-ж яны будуць рабіць, калі чаго другога не дасі, але якая будзе карысьць, што карова зьесьць тую салому? Ці карова ў тэй саломе знайдзе для сябе якую жыўнасьць! Бадай што ніякай. Адно тое, што зьесьць, патрымае у жываце і вон выкіне. Вот і ўсяго. Не, браткі, так ня можна. Калі ўжо даеш карові, то давай добрую і пажыўную салому з травою: давай гарохавіны, аўсянку, або ячмянку, бо яны маюць у сабе больш жыўнасьці, як жытняя салома. Корм не павінен быць тухлы.

Сечка для быдла не павінна быць кароткая. Такая сечка быдлу шкодзіць, бо залазіць ёй у чаравы. Найлепшая сечка для каровы на вяршок даўжыні. Для каня можа быць карацейшая.

2. **Пойла.** Паіць карову трэба чыстаю вадою. Найлепш, калі вада зімою трохі адагрэецца ў хаці — такая вада лепшая для кароў, асабліва цельных. Ня можна паіць каровы вадою гнілою, стаячаю—бо такая вада для каровы шкодзіць.

3. **Чыстата.** Каб карова была чыстая, пад яе трэба падсьцілаць. Калі-ж карова ўкачаецца ў гной, трэба абмыць, асабліва вымя. Нашыя гаспадыні часам пра гэта мала рупяцца—а які скутак? Малако бывае сьмярдзючае, бруднае, часам да вымя прыстае якая хвароба, малако робіцца цягучым, як, не мяркуючы, смаркачы. А ад чаго гэта? Ад нячыстаты.

Дык вот, калі хочаш мець малочную карову, спаўняй гэтыя правілы. **Гаспадар.**

(„Krynica“).

## Наша пошта.

**Д. Стэньку** — 6 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

**Ю. Зеленкевічу** — 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. Што тычыцца праграмы, аб якую просіце, напішэм лістоўна.

**Ю. Зімніцкаму** — 5 зл. 55 гр. атрымалі. Дзякуем.

**К. Капуносу** — 2 зл. атрымалі. Зборніка „Заходняя Беларусь“ выйшла толькі адна кніжка; купіць яе можна ў беларускай кнігарні ў Вільні, Завальная 7.

**Бабровічу** — 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем на новы адрас.

ПРЫЙМАЕЦЦА ПАДПІСКА
НА БЕЛАРУСКУЮ ТЫДНЁВУЮ ГАЗЭТУ
**„KRYNICA“**
(лацінскімі літарамі).
Каштуе на месяц 60 грош., ад 1 ліпня
і да канца году 3½ злот.
**Адрэс: Wilno, Zawalna, 7.**

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.